Год VI. Верасень № 9 (69).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. № 1

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

### Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год VI. | Вільня, Верасень 1934 г. | № 9 (69). |
|---|---|---|

* * *

Яшчэ з даўна абкрадалі,
Абдзялялі доляй нас.
—Так і трэба нам казалі
І хавалі ўжо ня раз.

І ламалі, і тапталі,
Нашу веру і закон.
І як каты вартавалі
Паднявольля цяжкі сон.

Нашу радасьць, наша шчасьце,
Адбіралі сілай нам.
Адны крыўды і напасьці
Ў жыцьцю меў ўсюды „хам“.

Паняверку — замест права,
Замест праўды — мелі зьдзек.
На'т кідалі ў вочы „хама“
— Скотам быў і будзеш век.

Але ўсё мінае з часам.
Мы жывём,хоць крыўдзяць нас,
Не памром і гэтым разам,
Бо такі жыцьця наказ!

**М. Машара.**

* * *

Прыдзе час і Волі зорка,
Зорка шчасьця прыдзе к нам —
Не пальюцпа сьлёзы горка
Не дакучыць боль грудзям.

Разгарыцца над старонкай
Залатым агнём зара,
І вясёлай песьняй звонкай
Прыдзе, прыдзе к нам вясна!

Ўстане наш народ з пакуты,
Вочы змые, твар расой —
І парве вяковы путы
Ён магутнаю рукой.

**Малады Дубок.**

* * *

Гэй, браточкі мае, дарагія!
К вам я словы зьвяртаю свае:
Распаляйце парывы сьвятыя,
Што таяцца у сэрцы на дне.

Мы ня хочам такой перамогі,
Каб слабейшы нам стаўся рабом
— Расьцярэбім сабе мы дарогі,
Што здаўна заваліў буралом.

За прыклад вы таго не бярэце,
Дзе сільнейшы слабых перамог,
Патаптаўшы ўсю праўду на [сьвеце
І для волі зрабіўшы вастрог.

Нам ня трэба ганебнага шляху,
Па каторым вякамі ўсё йдуць...
Мы ў жыцьці сваім хочам [размаху,
Чысту праўду усім разгарнуць!

**Н. Жальба.**

**Ад. Станкевіч.**

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

6)

*З нагоды 70-лецьця сьмерці К. Каліноўскага рэд. „Мужыцкай Праўды“ (†1864) і 50-лецьця „Гомана“ (1884)*

## V. Ігнат Грынявіцкі і яго беларускае народніцтва.

Кастусь Каліноўскі, як мы ўжо бачылі, быў першы рэволюцыйна народны барацьбіт за беларускае палітычнае вызваленьне, быў першы беларускі палітычны романтык, першы беларускі народнік. Гэткім ён быў ня толькі дзеля сваіх асабістых духовых вартасьцяў, якімі сапраўды быў багата абдараны, але спрыялі яму такім стацца так-жа ідэовыя палітычна-соцыяльныя кірункі якія тады панавалі ў Эўропе і якія такім ці іншым спосабам даходзілі да Беларусі, а такжа спрыяла гэтаму соцыяльнае палажэньне самога Каліноўскага. Дасягнуць аднак яму — хоць часткова — яго вялікага ідэалу незалежнасьці Літвы і Беларусі не ўдалося. Сіла маскоўская перамагла Каліноўскага і павесіла яго на шыбеніцы. Але праца яго дарма не прапала. Зярняты вольнасьці, засеяны Каліноўскім на беларускай ніве, як хутка аказалася, далей жылі, расьлі і разьвіваліся.

Беларускія вызвольныя ідэі снаваў далей па Каліноўскім — пасьля гадоў пятнаццацёх — сапраўды годны яго наступнік Ігнат Грынявіцкі.

На вялікі жаль, у беларускай літаратуры аб Грынявіцкім няма нічога. Дагэтуль ніхто аб ім не пастараўся сабраць у цэласьць хоць тыя скромныя весткі, якія параськіданы па рознай пераважна расейскай рэвалюцыйнай літаратуры. Праўду кажучы, нават напэўна няведама, як яго належыцца правідлова зваць: Грынявецкі, ці Грынявіцкі. У расейскай літаратуры[1]) спатыкаем напісана: „Игнатій Іоахимовичъ Гриневицкій“, а ўзноў у літаратуры польскай[2]) называюць яго „Hryniewiecki“. Ясна, што пабеларуску ён будзе не „грыне“, а „грыня“, бо ў беларускай мове „е“ ўжываецца або пад націскам, або пасьля націску, але „іцкі“, ці „ецкі“ — гэта няведама. Мы думаем, што расейская літаратура бліжэй да праўды, бо паходзіць яна ад людзей, якія Грынявіцкага блізка зналі і больш праўдзіва назвалі яго прозьвішча. На гэтай падставе ўважаем, што прозьвішча нашага барацьбітавызваленца трэба пісаць — Грынявіцкі.

Весткі аб асобе і жыцьці Ігната Грынявіцкага падае

---

1) „Былое“, Энцыклёпэдыі Савецкія і інш.
2) Цытаваны ў гэтай працы Кульчыцкі.

др. Т. Грыб у „Iskrach Skaryny“[1]), не паказываючы сусім — на вялікі жаль — тэй крыніцы,— з якой ён іх чэрпае, а якія і мы тут паўтараем паводле яго і на ягоную адказнасьць.

— Ігнат Грынявіцкі радзіўся ў 1856 г. у Меншчыне з каталіцкай сям'і, дзе яго бацька Яхім меў невялічкую гаспадарку ў вёсцы. У 60-гадох бацька Ігната з усім сямействам, якое складалася з адзінаццацёх душ, пераехаў у Горадзеншчыну, у Бельскі павет, дзе таксама займаўся гаспадаркай на вёсцы — меў невялікі фальварак. Ігнат вучыўся сьпярша ў Беластоцкай павятовай школе, якую скончыў у 1868 г.



**Ігнат Грынявіцкі.**

і пастуціў у Беластоцкую рэальную гімназію, якую скончыў у 1875 г. і паступіў у Тэхнолёгічны Інстытут у Пецярбурзе.

Тут ён прыймае чынны ўдзел у студэнскім жыцьці, а ў 1879 г. засноўвае гурток, які ставіць сабе за мэту ісьці вызваляць народ пры помачы баявых арганізацыяў. Сам едзе на вёску, ідзе ў народ, у сялянскія гушчы, абходзіць вёскі і мястэчкі Беларусі, дзе сярод мясцовай інтэлігенцыі шукуе сабе прыхільнікаў і аднадумцаў. Увосені таго-ж 1879 г. вяртаецца ўзноў у Пецярбург, дзе выдатна працуе

---

1) „Iskry Skaryny 1934 Nr. 3, Прага, бач. 33—35.

ў радох расейскіх народавольцаў, якія імкнуліся да скасаваньня царызму і перабудовы Расеі на асновах моднай тады, як ведаем, фэдэрацыі.

Найбольш праславіўся наш Ігнат забойствам тагочаснага цара Александра II ў 1881 г. I.III. Бомбай, якой быў забіты цар, сьмяротна быў ранены і сам Ігнат і ў той жа дзень у ночы, не распазнаны хто ён, памёр ад ран, маючы гадоў 25.

Ігнат Грынявіцкі быў ціхага і спакойнага характару, скромны, дабрадушны, працавіты, вытрывалы, чулы на чужое гора; адначасна маўклівы і замкнуты ў сабе; быў ён чалавек чыну; ідэалам яго было служэньне народу, служэньне ня словам, а дзелам; называў сябе Ігнат Літвіном.—

Гэтулькі даведваемся аб біографіі Грынявіцкага ў апісаньні др. Т. Грыба. Ужо з гэтых, хоць даволі скупых, вестак можам зрабіць некаторыя, патрэбныя нам вывады.

Прадусім мусім сьцьвердзіць, што Грынявіцкі сапраўды быў годным спадкабернікам беларуска-вызвольных ідэяў, пакінутых Каліноўскім. Для гэных ідэяў ён працаваў, разьвіваў іх далей, тасуючыся да варункаў свайго часу. Сапраўды, унікаючы ў працу Грынявіцкага, спатыкаем шмат у яго падобнага, а крыху і рознага з Каліноўскім.

Грынявіцкі, як аб гэтым можна судзіць з яго біографіі, паходзіў так-жа, як і Каліноўскі, з беларускай абяднелай шляхты. Аб гэтым гавора яго прозьвішча, а так-жа фальварак ягонага бацькі у Горадзеншчыне. Такім чынам Ігнат наш так-жа вышаў з тэй беларускай грамадзкай клясы, якая яшчэ не цалком сполёнізавалася, якая будучы сама вольнай ад паншчыны, была найбліжэй да народу і якая яшчэ перахоўвала ў сабе традыцыі аб мінуўшчыне беларускага народу ў складзе аднаго суцэльнага палітычнага цела — Вялікага Княства Літоўскага. Вось чаму Грынявіцкі, як і Каліноўскі, будучы беларусам і працуючы для Беларусі, цалком ня знаючы літоўскай мовы, зваў сябе Літвіном.

Каліноўскі першы падняў сьцяг барацьбы за волю беларускага народу, а Грынявіцкі яго панёс далей, кладучы сваё за народ жыцьцё, як і яго папярэднік. Думаецца нам, што Грынявіцкі многа чуў і ведаў аб Каліноўскім. Трэба ведаць, што калі слаўны наш Кастусь паміраў на шыбеніцы — Ігнат меў ужо 8 гадоў і мусіў ня мала чуць аб Каліноўскім, імя якога было шырока ведама па ўсей Горадзеншчыне. А ўзноў, калі Ігнат ужо быў барацьбітом у радох народавольцаў у Пецярбурзе, ад сьмерці Кастуся было гадоў толькі 15. Памяць яшчэ аб ім у народзе была сьвежай і Грынявіцкі, дапаўняючы свае дзіцячыя аб Кастусю ўспаміны, меў чым іх ускрасіць і дапоўніць і такім чынам мусіў шмат аб ім чуць і ведаць. Надта магчыма, што сьмерць Каліноўскага і яго праца была, з галоўных прычын, якая

фармавала палітычныя пагляды Грынявіцкага і якая папіхала яго на рашучую барацьбу за народ.

Шмат, як бачым, было супольнага між Каліноўскім і Грынявіцкім, але было ўжо ў гэтага апошняга і нешта цалком новае, асобнае. Абодва яны ідуць за волю беларускага народу, бязумоўна ўспамінаючы слаўную нашу мінуўшчыну падчас Вялікага Княства Літоўскага — дзеля ж гэтага на'т завуць сябе Літоўцамі, — але ідуць яны да гэтага рознымі дарогрмі: — Каліноўскі апіраецца аб Польшч, а Грынявіцкі — калі ўжо на Польшч ня было ніякай надзеі, — на Расею, у якой адбываўся вялікі рэвалюцыйна-народніцкі вызвольны рух, імкнучыся да перабудовы яе на падставах вольнай фэдэрацыі народаў.

І сапраўды, расейскія народавольцы імкнуліся да стварэньня з Расеі вольнай фэдэрацыі вольных народаў, бо-ж дзеля гэтага ў радох сваіх мелі арганізацыі, часта больш-менш аўтаномныя, народавольцаў украінскіх, а так-жа і беларускіх. Найлепшым гэтага доказам зьяўляецца часопіс „Гоман", якую выдавала група беларускіх народавольцаў, да якіх да сваей сьмерці належыў і Грынявіцкі. „Гоман" вышаў на трэцім-чацьвертым годзе па сьмерці яго. Ігнат наш такім чынам быў неразарвальным злучвом вызвольнай беларускай традыцыі між Каліноўскім і ягонай «Mużyckaj Praudaj» і між «Гоманам», які становіць новы, далейшы этап у разьвіцьці беларускай вызвольнай барацьбы і думкі.

## Kiepska budzie z „pastyrami"!

Kožny čałaviek, jakich-by pahladaŭ jon nia byŭ, u štodziennym svaim žyćci šukaje sabie niejkaje vyšejšaje, nadludzkaje, moralnaje apory. Biełarusy dahetul słušna šukali hetaj apory pieradusim u chryścijanstvie, jakoje ŭ ludziach, katoryja naležna jaho razumiejuć, raźvivaje idealizm, luboŭ, macuje ich i tvoryć zdolnymi da vytryvałaje, hramadzkaje pracy. Biełarus uvažaŭ Carkvu i Kaścioł za sapraŭdnyja i nieabmylnyja duchovyja apory i adnosiŭsia da ich z vialikim davieram. Dobra heta ŭziali sabie pad uvahu abžyreŭšyja nacyjanalistyčna-šovinistyčnyja rasiejskija i polskija duchoŭniki, i pačali — kožny dla siabie — praz Carkvu rusyfikavać, a praz Kaścioł polonizavać naš narod.

Jasna, hety falš, musiŭ niekali vyjšci na vierch. I jon vyjšaŭ jakraz tady, kali siarod narodu pačała raźvivacca śviedamaść. Ludzi našy, asabliva moładź, siahońnia adchilajucca ad Carkvy i Kaścioła. Ale tut prychodzicca śćvierdzić cikavy fakt, što bolšaść hetych ludziej, adnak ža nia šukaje apory sabie ŭ modnym materjaliźmie, a stajucca prosta „Bohašukacielami", chodziačy pa roznych sektach.

Viedajučy ab hetym, a tak-ža viedajučy, što padziel našaha narodu tolki na katalikoŭ i pravasłaŭnych vielmi adjomna adbivajecca na našym žyćci, my nia raz pisali ab patrebie, kab naš narod bolš nie raźbivaŭsia, kab dla vieručych— Carkva i Kaścioł byli sapraŭdy aporaj, a nia patskaj (łavuškaj), dy kab admiennaść relihii nie razłučała nas.

Spravu hetu my jznoŭ tut uvažajem za patrebnaje parušyć, bo sapraŭdy jašče šmat biełarusaŭ i ŭ sučasnaj carkvie i kaściele bačać aŭtorytet, a jak ludzi narodna niaśviedamyja—padatnyja pad upłyvy čužoj i varožaj nam ahitacyi, jakaja apošnim časam, asabliva siarod katalikoŭ, prosta abnahleła, ab čym śviedčać nastupnyja viestki:

U Šyłavickaj parafii, Vaŭkavyskaha pavietu, miascovy probaršč, polski nacyjanalist, ks. Ziemkievič, nia tolki ŭsialakim sposabam ahituje za polščynu, ale zabaraniŭ z ambony sialanam biełarusam vitać adzin druhoha pry pracy pabiełarusku słavami „Pamažy Boža!“, a nakazaŭ heta rabić papolsku: „Boże dopomóż“! Roźnicy, jasna, u źmieście hetych słoŭ niama nijakaj, ale za toje ŭ pryšłaści, kali ŭviadziecca „Boże dopomóż“ u žyćcio, taki ksiondz budzie havaryć, što hetyja ludzi palaki i što heta ziamla, na jakoj jany žyvuć—polskaja, bo tut zvyčai polskija.

Druhi-ž niejki ksiondz Bončkoŭski farmalna ahituje za polskuju kolonizacyju na biełaruskich ziemlach, tady, jak biełaruskija sialanie majuć takija zahony, što jak łaža ŭpapiarok, to hałava budzie lažać ŭ adnaho susieda, a nohi ŭ druhoha.

Ale na hetym nie kaniec. Bo voś 1-ha vieraśnia sioleta a hadz. 5 - 6 viečaram dvoch maładych biełarusaŭ-katalikoŭ pašli ŭ kaścioł śv. Jana ŭ Vilni da spoviedzi i trapili da ksiandza p r a ł a t a Savickaha. Voś-ža, kali pieršy z ich staŭ spaviadacca pabiełarusku, dyk spaviadnik zachavańniem svaim zmusiŭ biełarusa spaviadacca papolsku; kali-ž druhi padyšoŭ i taksama pačaŭ spaviadacca pabiełarusku, dyk tady spaviadnik užo farmalna śkipieŭ sa złości i zamiest taho, kab spaviadać, pačaŭ łaić biełarusaŭ, nazyvajučy ich kamunistami, biazbožnikami, paskudztvam, brydziačy biełaruskuju literaturu i h. d.... Hety da hłybini abražajučy fakt pierachodzić usie hranicy ciarplivaści! Bo trudna sapraŭdy navat u dumkach sabie dapuścić, što vytvarajecca. I chto-ž sapraŭdy źjaŭlajecca ŭ nas bolšym ahitataram biazbožnaści: ci taki ksiondzp r a ł a t, ci kamunisty! Što za prafanacyja spoviedzi i śviatyni! Dy što sapraŭdy za trahedyju pieražyvaje naš narod, jaki, utrymlivajučy takoha ksiandza padatkami, čuje ad jaho navat na spoviedzi biespadstaŭnuju chamskuju łajanku!

A dziejecca heta ŭsio ŭ „kulturnaj“ Vilni, u XX stahodździ, tut-ža pad bokam arcybiskupa Jałbžykoŭskaha, jaki tak-ža pamiatuje ab tym tolki zdajecca, kab utrymać u nas pa kaściołach polščynu, dy jak najdalej trymać biełaruskich ksian-

dzoŭ ad biełaruskaha narodu. A kiepska, što arcybiskup nie zahlanie bližej u narodnuju dušu i adpaviedna nie zareahuje na niechryścijanskija pastupki paduładnych sabie „pastyraŭ". Bo chutka dojdzie zdajecca da taho, što my ŭsie biełarusy budziem reahavać na pastupki svaich „pastyraŭ" tak, jak zarehavaŭ adzin naš supracoŭnik na abrazu pravasłaŭnym śviaščeńnikam biełaruskaha narodu, peckajučy svaje ruki kala jaho „небогообразного олицѣтворенія".

*j. n.*

## ПЕРАКАНАЎ

Ксёндз багабойны ды нейкай нядзелі
Дсўгім казаньнем вучыў у касьцеле;
Усе з яго мелі гдно прақананьне —
Грэшны абдзірствам усе хрысьціяне.
Трафам хаўтуры былі вечара тога,
Дык праканаў ксёндз у тым няжывога.

## ШЧЫРАЯ ПАКУТА.

Зьмітра у цэркві шчыра маліўся,
Богу ахвяру прырокшы за грэх,
Потым у краму пайшоў, пакруціўся —
Сьвечку ўкраў ён і ставіць пабег.

**А. Раецкі.**

## ДА БРАТА.

Дарма ты пытаеш,
Дарма ты шукаеш
Ды праўды сьвятой, —
Дзе толькі ёсьць людзі,
Каму твае грудзі
Далі супакой.
Каму твае рукі
Праз беды і мукі
Багацтва зьнясьлі
І радасьць і шчасьце
Праз гора-няшчасьце
Ў палацы далі.
Чый зьдзек ды над воляй
Сваёю і доляй
Цярпіш ты, мой брат,
І хто над тваёю
Гарачай сьлязою
Сьмяецца, як кат.
Дарма ты пытаеш,
Дарма ты шукаеш
Ды праўды сьвятой,—
Хто ганьбіць бяз меры
Усё ў тваёй веры
І род увесь твой.

**Ўлад-Ініцкі.**

## ДЗЕ ПРАЎДА?

Шукаеш праўды ты на сьвеце?
Хадзі, браток, я пакажу.
Мяркуй, дваццатае сталецьце —
Яна вісіць вось, на крыжу.

**В. Катовіч.**

# Прыкладная постаць

Нядаўна, як мы ўжо пісалі, памёр прэзыдэнт Нямеччыны, фэльдмаршал Павал Гіндэнбург, пражыўшы 87 гадоў. Дзеля таго, што асоба гэта годная ўвагі і можа быць прыкладам служэньня бацькаўшчыне, мы хоць у кароткіх словах пастараемся пазнаёміць з ёй нашых маладых чытачоў.

П. Гіндэнбург быў сынам нямецкага афіцэра, шляхціца. Кончыўшы афіцэрскую школу, паступіў ён у войска і ў хуткім часе браў удзел у пруска-аўстрыяцкай і нямецка-францускай войнах. Даслужыўшыся генэрала, у 1911 годзе П. Гіндэнбург выступіў з войска, але не надоўга. Бо вось у 1914 г. пачалася ўсясьветная вайна, на самым пачатку якой расейскае войска ўсьцяж наступала на нямецкую ўсходнюю армію, займаючы Прусію, а Вільгельм II, шукаючы добрага камандзіра, прыпомніў сабе эмэрытаванага (адстаўнога) генэрала Гіндэнбурга, катораму і даручыў каманду ўсходняга фронту. Гіндэнбургу адразу ўдалося выйграць вялікі бой каля Мазурскіх вазёр, разьбіць расейскія палкі і адкінуць узад фронт, забіраючы масу аружжа і войска ў палон. Перамога гэта зрабіла Гіндэнбурга слаўным на ўсю Нямеччыну і бязумойна прычынілася да таго, што ў хуткім часе ён стаўся галоўным камандзірам усяго нямецкага войска. Паміма вялікіх высілкаў, Нямеччына вайну прайгравае і сама аказваецца ў полымі рэвалюцыі, якая аднак-жа не зьмяла з сьвету Гіндэнбурга Наадварот, — новы сацыялістычны ўрад Нямеччыны просіць і давярае старому кайзэраўскаму ваяцы распусьціць збунтаваную армію, якой адзін ён мог толькі кіраваць. Гіндэнбург сумленна выконвае загад новых кіраўнікоў дзяржавы, падаецца ў адстаўку, асядаючы на стала ў м. Ганновэры.

У Ганновэры верхаводзілі камуністы і гэта вельмі трывожыла жонку Гіндэнбурга, якая баялася, каб ня сталася яе мужу што-небудзь кепскага. Але і камуністы з належнай пашанай аднясьліся да Гіндэнбурга і нават ахвяравалі яму ганаровае грамадзянства места.

Пасьля рэвалюцыі Нямеччына сталася рэспублікай, кіраванай сацыял-дэмократамі. Але і пры гэтым ладзе Гіндэнбург надалей ня траціць свае папулярнасьці, дзякуючы якой у 1925 годзе выбіраюць яго на прэзыдэнта. А ў 1932 годзе выбар гэты панаўляецца на новыя 7 гадоў.

Гіндэнбург ніколі ня быў палітыкам і ня лез у партыйныя змаганьні. Быў ён аднак безгранічна аддадзены сваёй бацькаўшчыне, для шчасьця каторай гатоў быў заўсёды пасьвяціць усё, што меў найлепшае, наймілейшае.

Гіндэнбург, як прэзыдэнт, разышоўся з сваімі асабістымі прыяцелямі, з якімі пражыў цэлыя гады і якіх час мінуў беспаваротна, бо знаў ён абавязак толькі адносна

бацькаўшчыны і гэтаму абавязку падпарадкоўваў уласныя жаданьні. З пераканаьня монархіст, ён верна выконваў рэспубліканскую канстытуцыю і патрапляў працаваць для бацькаўшчыны супольна з сваімі асабістымі праціўнікамі.

І нам, маладыя браты дарагія, трэба так паставіць сябе адносна свае бацькаўшчыны, як рабіў гэта слаўны Гіндэнбург. Трэба проч адкінуць асабістыя амбіцыі, асабістыя інтарэсы і партыйныя парахункі! Для нас яны не павінны цяпер іграць ніякае ролі. Для нас абавязкам павінна быць цяпер адно імкненьне: здабыць свабоду, бо ад гэтага залежыць уся наша будучыня, а тады ўжо, будзем спорыць які лепш завясьці лад! Цяпер гэта не на часе. Адзіным нашым лёзунгам мусіць быць: незалежнасьць і свабода, а далей — што народ захоча, тое павінна быць, хоць-бы гэта можа нават пярэчыла нашым асабістым амбіцыям. Да зьдзейсьненьня гэтых ідэалаў ідзём дружна і сьмела, усімі магчымымі і найкарацейшымі шляхамі! Іначай ставіць агульна-народную беларускую справу ў сучасны мамэнт, мы ўважаем, што ня можна і гэткім толькі шляхам ідзём да мэты, заклікаючы ў свае рады ўсіх, бяз розьніцы паглядаў, каму дарагі лёс Беларусі і каму залежыць на палепшаньні народнае долі.

Я. Н.

# Можна памагаць, але ня можна ламаць!

Адзін з быўшых „скарынчыкаў“ у № 20/34 „Роднага Краю“ напісаў, што „згінула „Скарынія“, але ня згінулі людзі, што яе стварылі“, — дык будуць яны тварыць новую корпорацыю, патрэбную быццам дзеля помачы студэнтам.

Помач для студэнтаў гэта бязумоўна добрая рэч. Але на што трэба дзеля гэтага тварыць новую студэнцкую арганізацыю? — Калі хто хоча з добрым намерам раздаць помач, дык можа зрабіць гэта і без корпорацыі, бо-ж ёсьць у Вільні ад нікога незалежны і агульна-беларускі Студэнцкі Саюз, які мае вельмі многа сяброў патрабуючых матэр'яльнага падтрыманьня. Але тут ходзіць аб што іншае, аб тое, каб было каму праводзіць далей працу „Скарыніі“, якая разьбівала беларускае студэнцтва і кіравала яго ў полёнофілы. Аб гэтым павінны ведаць беларускія матурысты.

*Студэнт.*

# Сьв. п. Др. Мікалай Ільляшэвіч.

У ночы з 2 на 3 памёр у Вільні ад сухотаў настаўнік Віл. Беларускай Гімназіі і Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі Др. М. Ільляшэвіч пражыўшы ўсяго 31 г. Др. М. І., будучы яшчэ вучням Віл. Бел. Гімназіі, цікавіўся жыцьцём беларускае моладзі і зьяўляўся адным з ініцыятараў і выдаўцоў часопісі беларускае моладзі „Маладое Жыцьцё“. Будучы на вышэйшых навуках у Празе Чэскай, нябожчык многа прычыніўся да распаўсюджваньня вестак аб Беларусі, супрацоўнічаючы ў розных рэдакцыях і пішучы кніжку па чэску п. н. „Беларусь і Беларусы“. Ужо як настаўнік Віл. Бел. Гімназіі Др. М. І. апрацаваў і выдаў падручнік псыхолёгіі для гімназіяў. Сьмерць Др. М. Ільляшэвіча вельмі балюча адчула беларускае грамадзянства. Для нас яна асабліва балюча, бо Др М.І. быў да пэўнай меры і нашым супрацоўнікам, зьмяшчаючы пару артыкулаў на бачынах „Шляху Мол.“ аб краязнаўстве.

Няхай-жа будзе Яму лёгкай Родная Зямелька!

# V i e r a s i e ń.

Vierasień — 9-ty miesiac hodu. U rymlanaŭ — september; franc. — septembre; niam. i anh. — september. U respublikanskim kalendary — fructidor — miesiac pładoŭ, jaki kančaŭsia 22 vieraśnia, a 23 vieraśnia, pieršym dniom miesiaca Vandemier, raspačynaŭsia novy hod.

U słavianaŭ: starabiełaruski nazoŭ —ryjen, zarev, česki — zàrì, ras. — sientiabr’, pol. — wrzesień, ukr. — veresen̓.

Biełaruski nazoŭ—vierasień—pachodzić ad słova „vieras“, jaki ŭ hetym miesiacy krasuje, pakryvajučy inady vialikija prastory. September — vierasień — u rymlanaŭ až ad Numy Pampilija (715—673(?) h. da N. Chr.) mieŭ 29 dzion, a 30-ty dzień dadaŭ da jaho Juli Cezar pry reformie kalendara ŭ 46 h. da Nar. Chr.

U rymlanaŭ hety miesiac byŭ paddany apiecy Vulkana, boha ahniu; u češć jaho ŭ pačatku vieraśnia rymlanie śviatkavali vulkanalii, zabivajučy čyrvonaje parasio i čyrvonaje cialo na achviaru hetamu bohu. U staražytnych-ža hrekaŭ u hetym m-cy na praciahu 9 dzion adbyvalisia ŭračystaści — misteryi. Heta byli tajomnyja kulty, u katorych tolki paśviačanyja mahli brać udzieł. U časie misteryjaŭ składalisia tolki peŭnyja achviary z zachavańniem asablivych abradaŭ, pryčym aŭtarniki pakazyvali ŭčaśnikam abrazy bahoŭ i znaki-symboli, jakija da hetaha času staranna pierachoŭvalisia ŭ adumysłovych schovach.

Karol Vialiki (768—814 h. pa N. Chr.) hety miesiac nazvaŭ Herbstmonat'am — vosieńskim miesiacam, bo z vieraśnia pačynałasia vosień.

I ciapier vierasień ličycca pieršym vosieńskim miesiacam, ale kalendarnaja (astronomičnaja) vosień pačynajecca z 23 vieraśnia, kali dzień roŭny z nočaju (vosieńskaje roŭnadzieńnie). Ad 23 vieraśnia dni stanoviacca karaciejšymi, a nočy daŭžejšymi i tak ciahniecca až da 22 śniežnia.

Na Biełarusi ŭ vieraśni stajać pryhožyja biazvobłačnyja dni, a ŭ nočy što raz to čaściej zdarajucca prymarazki. Ptuški adlatajuć u vyraj, liścio žaŭcieje, a na paloch i łuhoch ścielecca pavučyńnie. Hetuju paru vosieni ličać najpryhažejšuju paroju na Biełarusi.

Čas ad 1 da 8 vieraśnia viedamy na Biełarusi pa nazovam „babjaha leta". Jano tak-ža viedama ŭ čechaŭ, serbaŭ, ukraincaŭ i palakaŭ. Na Biełarusi ad „babjaha leta" pačynajuć miać i trapać lon i kanopli.

Za vierasień ubyvaje dnia na 2 h. i 6 minut.

U narodnym kalendary:

Vierasień — z dośvitkam dzień. Jak nastaŭ vierasień, dyk tuman kožny dzień. Jak nastanie vierasień, u haspadara poŭna humno i kišeń. U vieraśni pali ahoń i ŭ chacie i na poli. U vieraśni i list na drevie nia trymajecca. Chałodny vierasień, ale syty. U vieraśni adna jahada dy taja horkaja rabina.

1. (S. s). Na Symona ptuški latuć u vyraj. Na Symona łastaŭki chavajucca ŭ vadu.

6. (S. s). „Čudy".

8. Druhaja Pračystaja — Małaja Pračystaja— Druhi śviatok. Druhi śviatok — vosień, bratok. Pryšła mienša Pračysta, kančaj siejać načysta.

14. Uzvižańnie z pola žbiraje. Na Ŭzvižańnie paru hadziuki j vužaki chavajucca ŭ naru (ŭ ziamlu).

Na uzvižańnie chałat z pleč, a kažuch na plečy.

26. (S. s). Ivan Bahasłaŭ družki razasłaŭ, a na Pakrovy dzieŭka i hatova.

— Kali husi j žoravy latuć nizka — zima blizka, a kali vysoka — zima daloka. *Uł. Paŭ—ski.*

* * *

Poŭnač, i miesiac na niebie vysoka —
Sumnyja jołki tajomna šumiać,
Dzie-nia-dzie vyhlanie dub adzinoka,
Dzie-nia-dzie sosny, jak viežy, stajać.
Dzikaje miejsca! Lasy i bałoty —
Kupin miljony, kusty łaźniaka...
Bojazna šepčuć ab niečym čaroty
I aściarožna šuršyc asaka.
Što jany šepčuć u poŭnač hłuchuju,
Što za narady ŭ bałocie viaduć? —
Miesiac chavaje ich tajnu śviatuju,
Šepty-šuršańni z viatrami latuć.

*P. Ramančuk*

# Лісты

PIERAMOŽANYJA PIERAMOŽCAMI.

**Jakužy**, Brasłaŭskaha pav. Žyvie na našych ziemlach čužackaja intelihencyja i, nia dosyć, što za naš hroš kryvavy maje sabie panskaje žyćcio, ale prabuje jšče ŭhavaryć našaj moładzi, što jana z biełarusami ničoha nie maje supolnaha. Cacankami dy abiacankami ŭciahvajuć našu moładź u svaje „modnyja" arhanizacyi i pa paru hadoch hetyja čužackija hości chvalacca, što „Białorusinów już tu niema, są tylko obyvatele" i t. d.—Svoj adnak kareń nia zdradny i skarej toj sam źhinie, čymsia vykapaje hrob biełaruskamu narodu.

Sioleta Hurtok Bieł. Instytutu Hasp. i K. u Šalcinach sarhanizavaŭ sa stralcoŭ, siabroŭ St. Mł. W., S. M. P. i niearhanizavanaj moładzi biełaruskaje pradstaŭleńnie. Stavili „Paŭlinku" — J. Kupały. I treba było bačyć, jak słovy našaha praroka chapali za dušu moładzi, jaki padymali duch, i jak dryžeŭ miascovy vučyciel Pažaha i stary avanturnik ks. J. Barodzič. Moładź pracavała i radavałasia, a nazvanyja pradstaŭniki „kultury" skryhali zubami, dy adbivali artystaŭ.

Pamima taho, što dachod byŭ naznačany na zatoplenych, što 30 asob pracavała nad pradstaŭleńniem cełу miesiac, što blizu paŭtary tysiačy ludziej śpiašyła z pomaččù paciarpieŭšym, dva palicyjanty, padaždaŭšy dźvie hadziny pry scenie, za 15 minut pierad adkryćciom kurtyny, zajavili, što ihrać nia majem prava, — bo scena mieścicca pad hołym niebam, pry novaj chacie... A ŭ hetu-ž paru polskija pradstaŭleńni adbyvajucca ŭ humnach, puniach dy i na hetym samym miescy. Pry hetym sam kamandat za dzień, pierad pradstaŭleńniem ahledziŭ budynak i słova nie skazaŭ!

Pieramahli nas, ale pieramožcami my!

Našy stralcy, siabry St. Mł. W., S M. P. i moładź niearhanizavanaja zdała ekzamin, jak treba lubić svoj narod i jak treba zmahacca za jahonyja pravy i svabodu., dziela pomačy bližniamu. Abiacanki, namovy i pratakoły ni na što nie prydalisia. Praŭdu skazaŭ J. Kupała.

„Chaj złydni nad nami, skryhočuć zubami,  
Lubi svaju nivu, svoj kraj.  
I, skolki jość siły, da samaj mahiły  
Ary, baranuj zasiavaj!"

*Stud. U.S.B. J. Malecki.*

Jakužy 19.IX.34 h.




* * *

Беларусам я радзіўся,
Беларусам буду жыць.
Беларускую зямельку
Буду шчыра я любіць.
Бо радзімая старонка
Над усё мне прыгажэй;
Беларуская гаворка
Над усё мне даражэй!...

Славу родную і волю
Я нікому не прадам, —
За Народ свой беларускі
Я жыцьцё сваё аддам...
Хай загіне наша гора,
Зьдзек, пагарда і прымус...
Хай жыве для Славы Вечнай
Край наш родны—Беларусь!!

АЛЕСЬ МІЛЮЦЬ.

## Да навукі, да сьвятла!..

„Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй,
Што мучыць сягоньня, што думкі трывожа,
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі!“

Гэтыя словы праўды высказаў наш слаўны пясьняр Янка Купала. Кожны з нас хіба прызнае, што так яно ёсьць, калі бачыў, як сапраўды цяжка жывецца нашым неасьвечаным людзям, якімі як хто хоча, так кіруе, якія, часта, прадаўшы апошні пуд жыта ня могуць грошаў палічыць, каб праканацца, ці сапраўды купец не ашуківае іх на вазе, ці на плаце. А як сапраўды прыкра бывае ў таварыстве хлапцу, ці дзяўчыне, якая мусіць прызнацца, што ня ўмее ані чытаць, ані пісаць, або слухае, што людзі гавораць і нічога не разумее. А як-жа цяжка бывае, калі чалавек зусім няграматны трапіць у места ды нават назову вуліцы прачытаць ня можа і мусіць хадзіць, як сьляпы. Цяжкі, сапраўды цяжкі лёс людзей неасьвечаных, якіх, на вялікі жаль, у нас ёсьць яшчэ так многа.

Праўда, апошнімі часамі нібыта пашыраецца ў нас асьвета і моладзі сьветлай, што нават любіць кніжку ды газэту што-раз больш, але далёка мы йшчэ астаёмся ад культурных народаў, дзе ўсе людзі граматныя, дзе ўсе любяць кніжку. Найвялікшай бязумоўна ў нас перашкодай у здабываньні асьветы ёсьць нястача школаў і тое, што школы гэтыя для нас чужыя, небеларускія. Але школа гэта не адзіны спосаб здабываньня асьветы. Яе можна здабы-

ваць і саматугам. Вучыцца самым праз сябе, даведаўшыся ў каго-небудзь, як завуцца літары. Можна вучыцца так-жа прыватна цэлымі групамі да 10 асоб, бяз ніякага дазволу ад уладаў. І трэба, каб кожны асьвечаны беларус памагаў сваім братом маладым адчыняць вочы. Нам, беларусам, найлягчэй, ясна, вучыцца пабеларуску, а калі хто вучыцца выключна папольску, дык няхай памятае, што яму абавязкава трэба знаць сваю беларускую грамату. Калі-ж усе мы будзем асьвечаны, дык, як кажа той-жа Я. Купала:

„Жаль згіне, як мара, ня будзеш няздарай,
Нідзе ты й ні ў чым не заблудзіш,
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, як цёмен ня будзеш.
Такая прынука, як праца й навука,
Ці-ж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай, будзе ня штука
І гора сваё зваяваці!“

Аб усім гэтым трэба памятаваць пачынаючы новы 1934 35 школьны год. **У. Казаровец.**

---

# Naša bulba.

Jašče zdajecca nia tak daŭno ŭsie my vitali viasnu krasuniu, vyhladali ptušak i čakali roznakolernych kvietak, jak voś užo z usim hetym prychodzicca raźvitvacca. Jašče zdajecca tak niadaŭna zavoryvali my ŭ chałodnuju syruju ziamlicu našuju słaŭnuju bulbu, z jakoj majem i „muku i kašu“, jak voś užo jaje kapajem. Čas lacić! A my, śpiašajučysia jak najchutčej vykapać bulbu, kab nie zmaroziŭ jaje maroz, i nie padumajem navat, adkul hety nieabchodny prysmak uziaŭsia.

A cikava heta viedać. Pryviaźli bulbu z Ameryki da nas, a navat nie da nas, a tolki ŭ Hišpaniju, kala 1580 h. U nas jana pajaviłasia daloka paźniej, bo tolki paśla taho, jak pryvioz jaje ŭ Irlandyju Valter Ralej, jaki i navučyŭ ludziej jaje hadavać. Kali-ž naviedaŭ Eŭropu hoład, vyklikany francuskimi napaleonaŭskimi vojnami, tady bulba stałasia hałoŭnym ratunkam i biez jaje my ciapier sabie žyćcia nie vyabražajem.

Voś jakaja historyja našaj bulby.

## MACI.

Kali dziciatka nieŭnarok
Pabje maleńki čarapok
I viedaje, što kary nia minie —
Z ślaźmi da maciary biažyć
I molić prosić, až dryžyć
Ad strachu: „Mamka, tatka [budzie bić,
Choć ja nia chočučy zrabiŭ,
Dyk mamačka mianie ty paškaduj,
Zrabi kab tatka nia kryčaŭ —
Maju winu mnie darawaŭ!“
I maci bačyć, što dzicia samo
Svaju biadu adčuła — ŭžo —
Prytulić k sercajku svajmu
Dy paškaduje mocna i jamu
Vinu daruje jšče sama
J pryhožych cacak dać jana.

*Janka Nievuk.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Арышт Янкі Купалы.** Паводле атрыманых у Вільні пісьмом вестак з Менску, нядаўна савецкія ўлады арыштавалі Беларускага Народнага Паэта Янку Купалу. Арыштаваны быццам быў так-жа і Якуб Колас, якога аднак пасьля дапросу звольнілі.—Калі весткі гэтыя праўдзівыя, дык арышт Я. Купалы, аднаго з найлепшых сыноў Беларусі, сьведчыўбы, што камуністы ў змаганьнні з беларусамі страцілі граніцы і самі ня знаюць што робяць, — бо-ж арыштавалі таго, якога добрае імя ўсьцяж выкарыстывалі для свае палітыкі і за каторага плечы, калі прыпірала, хаваліся перад народам. Беларускае грамадзянства ў Зах. Беларусі з нецярплівасьцю чакае выясьненьня гэтых сумных вестак.

**З дзейнасьці Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.** Апошнім часам, 23 жніўня і 24 верасьня сёлета, адбыліся два паседжаньні Прэзыдыюму Бел. Нац. Камітэту, на якіх разглядаліся апошнія падзеі ў краю і заграніцай. У выніку гэтага на першым паседжаньні быў вынесены пратэст проціў ліквідацыі беларускай гімназіі ў Наваградку і разглядалася пытаньне ўчасьця беларусаў на сёлетнім Х-тым Кангэрэсе Нацыянальных Меншасьцяў. Кангрэс гэты адбываўся ў першых днёх м-ца верасьня ў Бэрне (Швайцарыя) і ад учасьця ў нарадах яго беларусы сёлета ўстрымаліся, пасылаючы толькі прывітаньне. На другім паседжаньні Прэзыдыюм Бел. Нац. К-ту 24 г. м. пастаноўлена: 1) выслаць у Лігу Народаў заяву аб тым, што беларусы ў СССР змушаны зносіць ня звычайна жорсткі прасьлед (камісар Літвінаў заявіў у Лізе Народаў, што ў СССР пануе ідэальнае сужыцьцё народаў) і што камісар заграпічных спраў СССР Літвінаў ня ёсьць прадстаўніком беларусаў; 2) падаць да агульнага ведама, што беларусы стаяць за тым, каб трактат аб абароне нацыянальных меншасьцяў, выплываючы з Трактату „Вэрсальскага“, падлягаць якому нядаўна Польшч ў Лізе Народаў адказалася, быў надалей утрыманы і належна выконываны; і 3) прыняць рэзалюцыю дамагаючыся, каб навучаньне рэлігіі беларускае моладзі адбывалася пабеларуску.

**Новая беларуская часопісь.** Нядаўна ў Вільні вышаў у сьвет № 1 беларускага месячніка пчалярства і мядовалекарскіх зёлак п. н. „Беларуская Борць“. Часопісь гэту выдае і рэдагуе ведамая беларуская дзеячка грам. Л. Войцікава, б. рэдактарка „Заранкі“, пяро якое як публіцысткі нашы чытачы мелі магчымасьць пазнаць так-жа і з бачын „Шл. М.“. „Беларуская Борць“ тымчасам друкуецца на шапіраграфе. Першы нумар мае 8 бачын вялікага разьмеру і робіць вельмі добрае ўражаньне. Адрас Рэдакцыі: Вільня,

Каралеўская вул. № 3 кв. 8. Падпісная плата да канца году 2 зл. Цана асобнага нумару 50 гр.

Новаму выдавецтву жадаем як найлепш разьвівацца, а беларускіх пчаляроў заклікаем падтрымліваць яго!

**Сэкцыя дзеля дасьледжваньня чысьціні беларускае мовы.** Як даведваемся, ужо даўно, у студэнцкім Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце сарганізавана сэкцыя дзеля дасьледжваньня чысьціні беларускае мовы ў прэсе і штодзенным жыцьці. Вось-жа пажадана было-б, каб гэта Сэкцыя пастаралася свае працы падаць неяк да публічнага ведама, бо іначай яна не асягае свае мэты, пры тым пажадана так-жа, каб яна была пашырана, г. зн. каб у ёй маглі працаваць ня толькі сябры Т-ва, але і старэйшыя знатакі беларускае мовы.

Справа чысьціні беларускае мовы вельмі важная і ёю ўсе беларусы павінны бліжэй зацікавіцца.

**Новы вучыцель у Віл. Беларускай Гімназіі.** На месца памёршага Др. М. Ільляшэвіча назначаны вучыцелям у В. Б. Гімназію брат нябожчыка, абсольвэнт віленскага унівэрсытэту Хведар Ільляшэвіч, малады беларускі паэт, творчасьць якога часткова знаюць нашы чытачы і з бачын „Шляху Мол.“.

**Малітвенік для беларусаў каталікоў.** Таварыства „Беларускае Каталіцкае Выдавецтва“ здало ўжо ў друк беларускі малітвенік п. н. „Hołas Dušy“ для беларусаў каталіцкоў. Малітвенік гэты ўлажыў ведамы беларускі паэт К. Сваяк (Кс. К. Стэповіч), а перарабіў і пашырыў ведамы беларускі дзеяч; с. В. Гадлеўскі мае ён апрабату вілен. Арцыбіскупа Р. Ялбжыкоўскага.

**Беларускі Адрыўны Календар на 1935 год** ужо хутка выйдзе з друку. Зьмешчана ў ім многа практычных гаспадарскіх радаў, цікавых вестак і вершаў. Апрача навейшых твораў Я. Купалы, Я, Коласа, Запольскага і іншых беларускіх паэтаў з Рад. Беларусі, зьмешчаны ў ім некаторыя творы нашых супрацоўнікаў—паэтаў з Зах.Беларусі: М. Машары, Быліны, Бярозкі, Улад-Ініцкага, Вількоўшчыка, Жука, Казлоўшчыка, Росьціка, Гараўніка а так-жа М. Васілька.

**Беларускі спартовец Ю. Кепель** нядаўна здабыў першае месца на выперадках лодкамі ў Варшаве і Кракаве, здабываючы гэтым першае месца ўва ўсёй Польшчы.

**З Б.С.С.Р. Першая беларуская школа лятуноў.** У Радавай Беларусі, у Менску, паводле газэтных вестак, мае быць хутка адчынена першая беларуская школа лятуноў.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*

*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

# Usiačyna.

**Źjezd savieckich piśmieńnikaŭ.** U druhoj pałovie m-ca žniŭnia s. h. ŭ Maskvie adbyŭsia źjezd savieckich piśmieńnikaŭ, u jakim brała ŭčaście 300 delehataŭ. U hetym liku była i delehacyja biełaruskich piśmieńnikaŭ, u składzie 20 asob, na čale z niejkim Klimkovičam, absalutna niaznanym z literaturnaj tvorčaści ŭ Zach. Biełarusi. Na źjeździe hetym kamunisty vusnami našych paetaŭ vyłajali, pamiž inšym biełaruski narodny ruch.

**Saviety ŭ Lizie Narodaŭ.** Na sioletniaj vasieńniaj sesii Lihi Narodaŭ niekalki dziaržaŭ zaprasiła ŭ siabry Lihi i SSRR. Balšaviki na hetyja zaprosiny chucieńka dali svaju zhodu, a ŭ paśpiechu zabylisia i ab „suśvietnaj revalucyi".

**Hod budzie mieć 13 miesiacaŭ.** Adumysłovaja Kamisija pry Lizie Narodaŭ ad daŭžejšaha času apracoŭvaje prajekt novaha kalendara, pavodle jakoha hod budzie mieć 13 miesiacaŭ. Staryja miesiacy ŭsie zachavajuć svaje dasiulešnija nazovy, a novy 13-ty miesiac, jaki budzie pamiž červieniem i lipniem maje nazyvacca „Sol", što aznačaje pa našamu „Sonièčny". Kožny miesiac budzie mieć pa 28 dzion, h. zn. poŭnych čatyry tydni. Vialikdzień budzie śviatam niaruchomym i prypadać jon maje na dzień 9 krasavika. Kalady astanucca 25 śniežnia i zaŭsiody ŭ adzin i toj samy paniadziełak.

Pradbačyć novy kalendar tak-ža i hod pierastupny. I tak što čaćviorty hod m-c luty budzie mieć 29 dzion. 29-ty dzień adnak budzie mieć svoj specyjalny nazoŭ i dziakujučy hetamu paradak dataŭ i tydniaŭ budzie nienarušany. Pavodle novaha kalendara daty 1, 8, 15 i 22 buduć prypadać kožnaha miesiaca na niadzielu. Prajekt novaha kalendara maje być uviedzieny ŭ žyćcio paśla zaćvierdžańnia jaho Radaj Lihi Narodaŭ, dziela hetaha specyjalna sklikanaj u 1935 h., bo ŭsie trudnaści, jakija stajali na pieraškodzie, užo pieramožany. Na ŭviadzieńnie novaha kalendara zhadžajecca tak-ža i Katalicki Kaścioł. Uvodžańnia ŭ žyćcio novaha kalendara pačniecca adnak nie raniej 1939 hodu, bo ŭ hetym hodzie 1 studnia prypadaje ŭ niadzielu.

**Strašnyja katastrofy.** — Na pačatku vieraśnia s. h. na mory, kala bierahoŭ Paŭnoč. Ameryki, z niaviedamych pryčyn paŭstaŭ pažar na vialikim karabli „Morro-Castle", padčas jakoha z ahulnaha liku 558 pasažyraŭ źhinuła 178 asob.

— U druhoj pałovie m-ca vieraśnia s. h. nad častkaj Japonii pralacieła z daždžom strašennaja bura, jakaja pavaliła 144 budynkaŭ školnych, 3914 damoŭ i 3212 fabryk. Padčas hetaj bury zhinuła bolš 2.000 asob i raniena bolš 5500 asob.

— 21 vieraśnia s. h. u adnej anhielskaj kapalni nastupiŭ vybuch, jaki žyŭcom zasypaŭ u ziamli bolš 200 hornikaŭ.

**Vilkins** — viedamy vučony padarožnik źbirajecca paŭtorna paprabavać dabracca da paŭnočnaha polusu pad lodam na padvodnaj łodcy, ale ŭžo na novym „Nautilus'ie" № II. Pieršaja padaroža jaho, jak viedama, nie ŭdałasia.

**908 metraŭ pad vadoj.** Amerykanski vučony Villiam Bube, ab jakim my pisali ŭ prošłym numary, u specyjalna zbudavanym skafandry apuściŭsia pad vadu na 908 metraŭ, dzie, jak raskazvaje, bačyŭ sapraŭdnyja dzivy pryrody.

**Mieŭ try nyrki.** Paśla dośledaŭ dachtary zajavili, što najstarejšy čałaviek, turak Zaro Aga, jaki niadaŭna pamior majučy 164 hady, mieŭ try nyrki.

**Hoład na Paleśsi.** Z pryčyny sioletniaj suchamieni, i paśla vializarnaj pavodki, jakaja pazalivała nivy, a navat i budynki na Paleśsi, pahražaje tamašniamu žycharstvu hoład.

**Ahranamičny Addzieł** Vil. Universytetu, paśla doŭhich hutarak i staranniaŭ, usio-ž zachavany i novyja studenty dalej pryjmajucca. Kažuć adnak, što pakiniena heta placoŭka nie dla navuki, a dla... palityki. Pabačym.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

Я н к у Н е в у к у. Вашы вершы нішто сабе, ня зможам аднак усіх іх друкаваць дзеля таго, што яны пераважна рэлігійныя і разьмінаюцца з характарам нашай часопісі. Просім не забываць!

Pensulo. На ўсе пытаньні адкажам Вам тады, калі будзем ведаць хто Вы. Адносна-ж эспэранта — уважаем, што раней трэба нам усім навучыцца свае беларускае граматы, а тады брацца за мову сусьветную.

У л а д з і м е р у С у—с к а м у. „Шл. Мол." дагэтуль акуратна мы Вам высылалі і далей ня будзем яго ўстрымліваць. Вершы слабенькія і радзім іх ня пісаць. Карэспандэнцыі пішыце, але прозай і з жыцьця моладзі, за што будзем удзячны.

„Г р о м". Патрэбны Вам адрас высылаем, вершы просім прысылаць, карэспандэнцыі зьмяшчаць ня будзем, бо могуць нас пасудзіць у самахвальстве, вельмі аднак цешымся, што людзі з пад знаку сярпа і малатка пераканаліся, што „Шлях Моладзі" сапраўды ідэова і няўпынна працуе для дабра беларускага народу.

K a z a r—c u Uł. Za ŭsio prysłanaje dziakujem, choć moža nia usio nam udasca vykarystać. Paradzić Vam možam adno vučycca samym praz siabie zdabyŭšy adpaviednyja knižki. Prahramy navuki ŭ himnazii nažal vysłać Vam nia možam, bo nia majem mahčymaści jaje dastać.

P a ŭ l u k u H a p—k u. Dziakujem za dobryja słovy i prośbu spaŭniajem!

P. R a m—k u. Z prysłanych nam vieršaŭ adzin drukujem, rešta ŭsie da druku nie padchodziać, bo jany abo słabyja zusim, abo niesamastojna pisanyja, što jość niadapuščalnym. Ciešymsia sto Vy paznajomilisia z M. M. i V. K., bo jany šmat Vam mohuć pamahčy.

В. К а т—ч у. Верш „Праз жыцьцё" і іншыя пастараемся зьмясьціць у наступных нумарох. Прывітаньне!

А. Р а е ц к а м у. З атрыманых намі вершаў, як бачыце, два друкуем, рэшта слабая. Просім пісаць!

Н. Ж а л ь б е. Вершы Вашы агулам слабаватыя, хоць здараюцца і нішто сабе, аднак і іх трэба, як хіба заўважылі, папраўляць. Пяра радзім ня кідаць. Просьбу споўнілі. Шчыра дзякуем за мілыя словы.